# Настаўнікі з Беласточчыны на святкаванні 90-тай гадавіны з дня нараджэння ЯНКІ КУПАЛЫ



*На адкрыцці помніка беларускаму песняру Янку Купалу ў Мінску.*

У ліпені гэтага года група настаўнікаў беларускай мовы з Беластоцкага ваяводства знаходзілася ў Мінску на курсе беларускай мовы. У часе нашага знаходжання там беларускі народ урачыста святкаваў 90-ую гадавіну з дня нараджэння Янкі Купалы. Дык і мы мелі магчымасць прымаць удзел у гэтых урачыстасцях.

90-ая гадавіна з дня нараджэння Янкі Купалы ва ўсёй Савецкай Беларусі прымалася як вялікае свята беларускай культуры і беларускага народа. 7 ліпеня 1972 года ў парку імя Янкі Купалы ў Мінску быў адкрыты велізарны помнік паэта. На ўрачыстасць адкрыцця помніка прыехалі госці з розных бакоў вялікай краіны Саветаў — прадстаўнікі пісьменнікаў РСФСР і Украіны, Узбекістану і Грузіі, Арменіі і Эстоніі, Літвы і Латвіі. Творчасць Янкі Купалы ведаюць і любяць усе жыхары Савецкага Саюза. Прыняла ўдзел у свяце і група настаўнікаў падставовых школ з Беластоцкага ваяводства, якая якраз знаходзілася ў Мінску.

Урачыстае адкрыццё пачалося роўна ў 11 гадзін раніцы. Пасля выступлення партыйных і адміністрацыйных улад, а таксама беларускага паэта Петруся Броўкі, які выступаў ад імя беларускіх пісьменнікаў, наступае самы ўрачысты момант. Разам з прадстаўнікамі жыхароў сталіцы Беларусі Пятрусь Броўка паволі здымае чахол з вылітага ў бронзе помніка. Здаецца, што лёгкі парыў ветру адразу ж падняў палу паліто, накінутага на плечы паэта, які ў творчай задуме ўвайшоў якраз у парк, каб непадалёку ад невялічкай крыніцы раздумваць над далейшымі планамі творчасці. Задумаўшыся, паэт як бы не заўважае, што над крыніцай, ля якой ён праходзіць, нахіляе сваю галаву кветка папараці, знайшоўшы якую, чалавек становіцца шчаслівым. А можа гэта тая самая кветка шчасця, якую ўсё жыццё шукаў паэт і да пошукаў якой заклікаў свой народ?! Паэт глядзіць перад сабой, а перад ім — бурліць жыццём горад і ўся пераўтвораная рукамі і розумам савецкіх людзей Беларусь. З вышыні помніка паэт бачыць шчаслівых і гордых людзей, квітнеючыя палі і лясы.

Увечары гэтага ж самага дня ў Дзяржаўным тэатры перы і балету ў Мінску адбыўся ўрачысты вечар. На гэты раз выступае старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Максім Танк. А пасля на трыбуне штораз то новыя госці, прыбыўшыя з розных бакоў Савецкага Саюза, якія ў гарачых словах выказваюць сваю пашану да слаўнага паэта Янкі Купалы. Амаль кожны прамоўца гаворыць аб тым, што імя Янкі Купалы нададзена нейкім вуліцам і плошчам, бібліятэкам і школам. Многія з іх уручаюць музею імя Янкі Купалы падарункі — памяткі па вялікім паэце, асобныя выданні яго твораў, памятныя медалі, скульптуры, партрэты.

8 ліпеня цэнтрам урачыстага святкавання гадавіны Янкі Купалы становіцца беларуская вёска Вязынка. Тут менавіта ўбачыў свет і правёў першыя дні свайго жыцця паэт. Ад раніцы прыязджаюць сюды натоўпы людзей. Людзі збіраліся тут, нягледзячы на хмары, якія пакрывалі неба і з якіх штораз сыпаліся вялікія кроплі дажджу. Усе хацелі схіліць галаву перад домам, дзе жыў калісьці будучы паэт. Наведаўшы дом паэта, людзі ішлі далей, у недалёкі амфітэатр. Тут у 11 гадзін з мікрафонаў пачуўся спакойны, урачысты голас паэта:

«Трэба нам песень шчырых і чулых,
Што праўду днёў нашых да полюсаў
неслі б...»

Гэтым верщам быў пачаты вялікі канцэрт, у праграме якога прымалі ўдзел вядомыя песняры, музыканты і танцоры рэспублікі. Ля возера зайгралі цымбалы, загучалі бубны, закруціліся пары ў танцы.

Сцямнела, і толькі бюст паэта, патанаючы ў кветках, што прынеслі ўдзячныя чытачы, высіўся горда і спакойна над ваколіцай.

*Мікалай Грыгарчук*



*Ускладанне вянкоў на магілу паэта.*



*На Купалаўскім свяце паэзіі ў Вязынцы. Выступае Максім Танк.*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ЯК ВАРЫЦЬ ШПАРАГІ

Шпарагі (спаржа) — гародніна, у нас не вельмі распаўсюджаная і не надта танная. Але часамі варта зрабіць штонебудзь новае, як кажуць, на адмену. Зрэшты, нават на найбольш элегантных прыёмах падаюць суп з шпарагаў, які можна падрыхтоўваць з дробных і тоненькіх шпарагаў, а яны, як вядома, напалову таннейшыя.

Шпарагі з'яўляюцца крыніцай вітамінаў з групы В. Варта ўжываць іх асобам, якія не хочуць паўнець, паколькі шпарагі — гародніна нізкакаларыйная. Найлепш купляць шпарагі белыя, не вельмі доўгія і тоўстыя. Найбольш каштоўная ў іх частка гэта так званая галоўка.

Перад падрыхтоўкай шпарагі старанна мыюць і абіраюць, пачынаючы ад нізу ў бок галоўкі. Далей шпарагі звязваюць у пучкі, кладуць у гарачую ваду (куды дадаюць раней крыху солі і цукру) і вараць на не вельмі вялікім агні 20—30 мінут. Звараныя шпарагі вымаюць з вады, абсушваюць і складваюць галоўкамі ў адзін бок на разагрэтай талерцы, пасля чаго паліваюць разагрэтым маслам з цёртай булкай.

Можна шпарагі падаваць у якасці халоднага блюда. На яго бяруць паўкілаграма вараных шпарагаў, шклянку маянезу, лыжку дробна нарэзанай зялёнай пятрушкі, салату, памідор. Шпарагі нарэзаць на кружкі сантыметравай даўжыні, вымяшаць з маянезам, палажыць іх на лісткі салаты, пасыпаць зелянінай і ўпрыгожыць памідорамі.

Вельмі смачны атрымліваецца са шпарагаў суп-пюрэ. На адзін кілаграм шпарагаў другога гатунку трэба ўзяць паўлітра булёну з цяляціны або курыцы, 3/4 шклянкі салодкай смятанкі, 2—3 жаўткі, соль, лыжку дробна нарэзанай зялёнай пятрушкі.

Ачышчаныя шпарагі зварыць, як было падазена вышэй. Вынуць іх з вады, адрэзаць галоўкі лепшых шпарагаў і палажыць іх на талерку, а рэшту шпарагаў працерці праз сіта, пераліваючы ў часе працірання двума шклянкамі навару з шпарагаў. Спалучыць працёртыя шпарагі з булёнам, дадаць солі, уліць салодкую смятанку, змешаную з сырымі жаўткамі. Суп падаграваць, памешваючы. Ні ў якім выпадку нельга дапусціць да таго, каб суп закіпеў. Калі суп ужо будзе даволі гарачы, разліць яго ў талеркі, палажыць у суп адрэзаныя раней галоўкі шпарагаў, усыпаць зялёную пятрушку.

Суп са шпарагаў смакуе найлепш, калі падаюць яго з грэнкамі з белай булкі, альбо з птысёвым гарошкам.

Мы расказалі вам сёння, як падрыхтоўваюцца шпарагі найпрасцейшым спосабам. Зразумела, што спосабаў іх падрыхтоўкі ёсць намнога больш. Шпарагі часта падаюць у якасці салата, у смятанным соусе, робяць таксама вельмі смачныя амлеты, у сярэдзіну якіх кладуць звараныя шпарагі і г.д.

*Гаспадыня*

## Беларуская літаратура

# ПЕРЫЯД XIX СТАГОДДЗЯ

### ЯНКА ЛУЧЫНА (1851—1897) — ЧАСТКА І

Аб Янку Лучыну (Іван Неслухоўскі), нягледзячы на тое, што жыў ён параўнаўча нядаўна, ведаем вельмі нямнога. Толькі некаторыя факты з яго жыцця вядомы даследчыкам. Мабыць, належаў гэты паэт да той катэгорыі людзей, якія не стараюцца займпанаваць іншым сваёй біяграфіяй. А з гэтым бывае ў розных людзей па-рознаму. Ёсць нямала далёка не выдатных асоб, якія празмерна многа пішуць лістаў і папулярызуюць сваю аўтабіяграфію з надзеяй, што ўсё гэта будзе мець вялікае значэнне для гісторыі. Хай пішуць.

Лучына нарадзіўся ў сям'і даволі заможнага адваката ў Мінску. Маёмасць бацькі дазволіла наняць для адукацыі сына настаўнікаў. Дзякуючы ім Лучына атрымаў добрую элементарную адукацыю, пазнаёміўся таксама з некалькімі мовамі. Па-беларуску не вучыўся. Аднак не меў цяжкасцей у працэсе вывучэння гэтай мовы. У другой палове XIX стагоддзя Мінск быў малым, досыць захалусным гарадком. На вуліцы панавала вясковая стыхія — сялян было асабліва поўна ў базарныя дні. Такім чынам, Лучына мог і прыслухоўвацца, і ўключацца ў размову. Пасля падрыхтоўкі ў дамашніх настаўнікаў Янка Неслухоўскі ўступіў у 1865 годзе ў Мінскую класічную гімназію. У школах гэтага тыпу вельмі высока было пастаўлена навучанне моў і літаратуры. Трэба думаць, што Лучына дакладна пазнаёміўся з старажытнымі літаратурамі. Зразумела, што грунтоўна вывучаў таксама рускую літаратуру. З польскай мовай знаёміўся перш за ўсё дома. Бацькі паэта паходзілі са шляхты і былі каталікамі. Ужо гэтых двух фактаў хапае для таго, каб уявіць атмасферу ў доме Неслухоўскіх. Каталіцкая шляхта ў Беларусі традыцыйна цягнулася да польскай літаратуры і культуры. Таму няма сумнення, што і Лучына быў выхаваны ў атмасферы культуры Міцкевіча і Славацкага, у атмасферы пашаны да памяці аб паўстанні 1831 года. На дзяцінства Лучыны прыпала студзеньскае паўстанне 1863 г. Калі яно пачалося, Лучыне не было яшчэ 12 год. Зразумела, што не мог ён прымаць непасрэднага ўдзелу ў паўстанцкім зрыве. Няма аднак сумнення, што сімпатыі і эмоцыі маладога юнака былі на баку паўстанцаў.

У гімназіі правучыўся Лучына з 1868 па 1870 год. Добрыя вынікі на экзаменах дазволілі Лучыну марыць аб вышэйшай навучальнай установе. Пасля заканчэння гімназіі Лучына паступіў у Пецярбургскі тэхналагічны інстытут. Гэты крок як бы запярэчваў гуманітарнаму характару адукацыі Лучыны. Аднак не зусім. У школах рускай імперыі навучанне матэматыкі і фізікі стаяла на высокім узроўні, і, мабыць, веды, атрыманыя Лучынам у гэтых галінах, дазволілі яму паступіць у вышэйшую навуковую ўстанову тэхнічнага тыпу. У перыяд прабывання ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце Янка Лучына некалькі разоў кіраваў на рукі інстытуцкіх улад прашэнні, у якіх прасіў зволніць яго ад розных грашовых аплат. За кожным разам матываваў сваю просьбу цяжкімі матэрыяльнымі ўмовамі сям'і. Матыў гэты выступае, як вядома, у прашэннях усіх студэнтаў свету. Ці сапраўды быў у цяжкім становішчы? Мабыць, так. Бацьку Лучыны — сярэдняй катэгорыі адвакату сапраўды нялёгка было ўтрымоўваць сына ў далёкім Пецярбурзе. Інстытуцкія ўлады наогул ішлі на руку Лучыну. Галоўнай прычынай гэтай прыхільнасці была саліднасць Лучыны як студэнта. Закончыўшы ў 1876 годзе інстытут, Лучына з дыпломам інжынера ў кішэні накіраваўся ў Закаўказзе. Пачаў працаваць у Тыфлісе (сёння Тбілісі) ў галоўнай чыгуначнай майстэрні Закаўказскай чыгункі. У Закаўказзі Лучына сустрэўся з вядомым рускім пісьменнікам Горкім. Многа гадоў пазней, у 1928 Горкі, едучы праз Беларусь, пытаў сустракаўшых яго беларускіх пісьменнікаў аб Лучыну. Не ведаў, што Лучыны ўжо больш чым трыццаць гадоў няма сярод жывых.

Канец жыцця Лучыны меў драматычны характар. Пісьменнік быў разбіты паралічам. Праўда, здолеў падлячыць сваё здароўе, аднак да нармальнага стану не змог ужо вярнуцца ніколі.

Знаходзячыся пры біяграфіі Лучыны, варта яшчэ сказаць аб адным спецыфічным занятку гэтага чалавека. Лучына, будучы яшчэ вучнем, збіраў беларускі фальклор. Знаходзіўся ён у кантакце з некаторымі вядомымі тагачаснымі фалькларыстамі і па іх просьбе збіраў беларускую народную творчасць. Можна думаць, што кантакт з фальклорам быў адной з прычын разбуджэння яго літаратурнага таленту. Памёр Янка Лучына ў 1897 годзе ў Мінску.

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЗМЯНЯЕЦЦА ЖЫЦЦЁ

Яшчэ нядаўна ў Бяндзюзе была цераспалосіца і цяжка было жыць. Зямля тут пясчаная і быў багон, дзе тапіліся каровы. Але прышла камасацыя ўсіх грунтаў, багон меліяравалі і загаспадарылі, жыццё жыхароў гэтай вёскі хутка змянілася. Бяньдзюрцы цяпер жывуць добра, у іх лепшы ўраджай, зручней стала гаспадарыць. Бацькавы стадолы сталі малымі, цяпер будуюць новыя, планавыя. Пабольшылася гадоўля кароў, ялаўніку і свіней. Жыхары вёскі пакуплялі свае касілкі, грабілкі і іншыя машыны. Пабольшылася малака, прадаюць яго дзяржаве ў злеўню Круглы Лясок. Давозіць яго сюды фурманкаю Іван Міруць. Аднак цяжкая дастаўка гэтага малака: летам трэба на трэцюю гадзіну раніцы аддаць малако, бо вазак спяшае яго завезці. Вельмі патрэбна Бяндзюзе свая злеўня. Мо калісьці людзі дачакаюцца і яе, бо ўжо на малачарскі пляц пачалі вазіць матэрыял на будову злеўні.

*А. Кузьма, Бяндзюга*



*Дэлегатка на VII з'езд БГКТ Ніна Кучка з Махнатага, харыстка калектыву ПА БГКТ у Гайнаўцы, актывістка ў грамадскай дзейнасці.*

*Фота В. Буры*




## НА ЛЕТНІХ КАНІКУЛАХ

Аня скончыла ўжо першы клас сярэдняй школы.

Калі яна ехала дадому, глянула праз акно аўтобуса на Нарву. Блакітная стужка вады круцілася між лугамі. То прападала ў траве, то зноў заколлем акружала квяцістую лугавую траву.

Дзень за днём праходзілі хутка, Аня ўжо не магла так часта хадзіць на рэчку, як гэта рабіла ў мінулым ці пазапрошлым годзе. Але на яе дзень нараджэння 25 ліпеня (якраз была нядзеля) маці дазволіла Ані ісці на раку. Калі Аня апынулася на беpагу, яе зноў ахапіла радасць. Так доўга яна марыла аб сустрэчы з ракой і вось стаіць на берагу, глядзіць на яе.

Раптам чуе за сабой звонкі голас Юркі.

Юрка ідзе з нейкім высокім незнаёмым хлопцам. Хлопцы зніклі за паваротам. Аня падышла некалькі крокаў і стала, як стоўб. Юрка з незнаёмым хлопцам стаялі перад ёй.

— Аня, знаёмся з маім школьным таварышам.

— Віця, — сказаў хлопец і апусціў галаў.

— Аня, — адказала яна і таксама апусціла галаў.

— Аня, ці ж ты язык дома забыла? — зажартаваў Юрка.

Размова доўга не клеіцца. Але Аня раптам задзірае галаў, глядзіць у неба і смяецца. Яна ўбачыла жаваранкаў, якія адзін перад другім стараліся ляцець перад жоўтым матыльком.

І Аня і Віця разгаварыліся.

У іх было многа супольных тэм. Толькі Юрка сядзеў сумна, апусціўшы галаў, і сям-там дапамагаў Віці расказваць аб сваіх невядомых і вядомых падзеях. Сонца ўжо апускалася за лес, а ніводнае з іх гэтага не ўбачыла. Гэта ж быў 16 ліпеньскі дзень нараджэння Ані.

*Аня з Плёсак*



*Дэлегатка на VII з'езд БГКТ Марыя Данілецкая з Гайнаўкі, актывістка аддзела і салістка хору.*

## УГНАЕННІ

Сяляне грамады Дубічы Царкоўныя цвёрда ўзяліся за пакупку мінеральных угнаенняў. Палеткі ж чакаюць пасеваў збожжа. Найбольш купляюць людзі суперфасфат, патасовую соль і салетру. Многія сяляне купляюць угнаенні на кантрактацыі збожжа і гэта ім вельмі выгадна, бо калі запланаваная кантрактацыя (на другі год) будзе выканана, дык каля 40 працэнтаў коштаў угнаенняў селянін ужо не плаціць.

Людзі кажуць: цяпер ужо і зямліца не хоча радзіць без попелу. Мо і праўда.

*М. Панфілюк*




*Дарагое Сэрцайка!*

Нядаўна я вярнуўся з войска. У мяне ёсць дзяўчына з мае вёскі. Мы сябравалі яшчэ перад войскам. Потым цэлы час мы пісалі пісьмы адзін другому. Ды і на прысягу маю Марыся прыязджала, чакала мяне, не хадзіла ні з якім хлопцам. Праўда, хадзіла на забавы, але заўсёды вярталася з сяброўкамі. Так прынамсі мне гаварылі мае сябры, ды і маці мая не раз там зыркала на паводзіны Марысі.

Кахаю я Марысю і не хацеў бы, каб між намі ўсё скончылася. А цяпер у нас дрэнна. Марыся не хоча нават гаварыць са мною, не прышла нават на забаву. А вось, Сэрцайка, за што Марыся пагневалася на мяне. Як я прыехаў дамоў з войска назусім (гэта было два тыдні таму назад), у нас у хаце былі госці: нейкія добрыя знаёмыя маіх бацькоў. З імі была маладая дзяўчына. Праўда, я, як толькі прыехаў, зайшоў да Марысі, а ад яе дамоў. У той вечар я быў вымушаны проста пайсці з гэтай дзяўчынай у клуб, паказаць нашу моладзь. Мне проста не выпадала весці сябе інакш. Аб гэтым даведалася Марыся і на другі дзень, калі я зайшоў да яе, выйшла з хаты без якога-колеч слоўца. Ад таго часу не глядзіць нават у мой бок.

Што мне рабіць, Сэрцайка, як пераканаць Марысю ў яе беспадстаўных падазрэннях? Напішы, толькі хутка. Дзякую.

*Віця з Б.*

Віця! Напэўна Марыся не мае сур'ёзных падстаў да таго, каб парваць ваша сяброўства, вашы пачуцці. Але, відаць, зайздросная, а гэта ўсё ж сведчыць, што Марыся кахае цябе. Ды вялікай трагедыі я тут не бачу, веру ў тое, што ўсё скончыцца добра. Калі Марыся не хоча цябе бачыць, адчакай, ды толькі не заляцайся да іншых, бо гэта можа пагоршыць справу. Калі на забаве Марыся не будзе з нікім танцаваць, ты зрабі так сама. Пройдзе злосць, калі Марыся пераканаецца, што не цікавяць цябе іншыя дзяўчаты, яна вернецца да цябе і ўсё будзе ў парадку, як дагэтуль.

*Жадаю ўсяго найлепшага!*
*Сэрцайка*

## ЛЮБІЦЬ І ШАНАВАЦЬ

Распачаўся школьны год. Колькі радасці, колькі надзей і хвалявання крыецца ў слове школа! Так, як маці вучыла нас вымаўляць першыя словы, стаўляць першыя крокі па роднай зямлі, — так сама школа вучыць пазнаваць свет, адчыняе вочы на тысячы цікавейшых з'яў. Школа навучае нас самастойна рашаць любыя жыццёвыя задачы. Бо трэба памятаць, што ўсё ў жыцці здаецца простым. Усё мы самі лёгка можам зрабіць, напрыклад, пашыць сукенку, направіць матацыкл, збудаваць хату, напісаць верш... Толькі трэба ўмець. А каб умець — трэба вучыцца. Ды вучыцца не абы як, а ўважліва, пільна, старанна. Бо маладосць ніколі не вяртаецца, бывае толькі раз у нашым жыцці і страчанага часу таксама ніхто не верне! Школа павінна прывіць дзецям не толькі адпаведны запас ведаў, але таксама любоў да сваёй роднай матчынай мовы, да свайго краю, да народнай улады і народнай дзяржавы. Усе мы ведаем, што перад вайною на ўсю нашу дзяржаву была толькі адна-адзіная беларуская школа! А сёння, пры народнай уладзе, усе нашы дзеці могуць мець родную школу. Каля 176 школ Беласточчыны вучыць дзяцей нашай роднай мове. Акрамя таго, маем беларускія ліцэі, кафедру беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце. А колькі ўсялякіх курсаў!...

Ці правільна гэта? Правільна! Мы абавязаны падтрымліваць і развіваць сваю культуру, мову, песні, добрыя звычаі. Бо ці хараша было б у хаце, калі б якісь дзівак вымаляваў вокны, дзверы, падлогу, сцены і мэблю, напрыклад, рыжым колерам? Вядома, што было б непрыгожа.

Народная ўлада — наша ўлада! Яна дала беларусам, нароўні з палякамі ды іншымі народамі ў Польскай Народнай Рэспубліцы поўную свабоду развіцця, поўнае раўнапраўе і вялікую матэрыяльную дапамогу ў развіцці культуры. І нам трэба шанаваць сваю культуру, сваю мову і песні. Кожнае беларускае дзіця павінна знаць і любіць сваю родную мову. Але ўсе дзеці абавязаны таксама вывучаць і любіць нашую дзяржаўную мову і наогул усе прадметы школьнай праграмы. Бо толькі тады яны стануць дастойнымі і вартаснымі грамадзянамі народнай Польшчы на карысць народу і на радасць сям'і!

*В. Бура,*
*Гайнаўка*

## § Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Маю па бацьку 2 га зямлі. Сама я жыву ў горадзе, а ўжо восем год за маёй згодай зямлю апрацоўваў Х. Ён абавязаўся плаціць падатак і выконваць абавязковыя пастаўкі. Паколькі ў апошнія гады ён абавязкаў сваіх не выконваў і я змушана была заплаціць падатак сама, я падала ў суд і атрымала на пачатку 1971 года рашэнне аб прымусовым яго высяленні. Х. звярнуўся да прэзідыума павятовай рады нарадовай, каб прызналі яму ўласнасць, паколькі ён карыстаўся зямлёю 8 год. Ці можна патрабаваць выканання судовага рашэння?

АДКАЗ: Ад часу, калі абавязвае закон з 26.X. 1971 г. аб урэгуляванні ўласнасці сельскіх гаспадарак, г. зн. ад 4 лістапада 1971 г., не можна выканаць рашэння суда, якое пастанаўляе прымусовае высяленне з нерухомай сялянскай маёмасці — да часу, пакуль прэзідыум павятовай рады нарадовай не вырашыць справы ўласнасці гэтай маёмасці. Паводле закону, у гэтым выпадку суд можа або пакінуць вам уласнасць гаспадаркі — калі дойдзе да пераканання, што вы зможаце належна яе ўпраўляць, або прызнае гаспадарку яе ўладальніку Х-у, або пяройме яе на ўласнасць дзяржава, паколькі Х. не выконваў абавязкаў у адносінах да дзяржавы.

## ПАЖАРНАЯ КАМАНДА Ў МАХНАТЫМ

Ужо многа год існуе ў Махнатым пажарная каманда. Належаць да яе пераважна мужчыны і маладыя хлопцы. Камендантам з'яўляецца Вася Баўтручук.

Махнацкія пажарнікі вельмі актыўныя. За актыўны ўдзел у гашэнні пажараў атрымоўвалі ўзнагароды. Пажарнікі ў Махнатым супольна з вёскай узяліся за пабудову новай прыгожай рамізы. Ужо матэрыял ёсць. Пажарнікі самі гэты матэрыял купілі і прывезлі. Працуюць яны ў вольны час і нядзелі. Найбольш працаваў пры пабудове рамізы Андрэй Пасынюк, а таксама і іншыя. Гэта ўсё сведчыць аб працавітасці і самаахвярнасці махнацкіх пажарнікаў.

*Аня Білеўская,*
*в. Махнатае*




*«Аня» з гайнаўскага ліцэя.* Інфармацыя аб пачатку навучальнага года вельмі агульная. Пішы больш канкрэтна (так, як у ранейшай інфармацыі). Чакаем наступных карэспандэнцый.

*Сегень Міраслаў, Камень.* Факт, які ты апісаў пра С. В. ніяк не пасуе да становішча, якое яна займае. Але мо на першы раз дамо ёй шанцы на рэабілітацыю і не будзем яе да канца кампраметаваць. Пішы нам таксама пра іншыя справы.

*М. Панфілюк, Дубічы Царкоўныя.* На жаль, «Сокаў цаліны» Цішкі Гартнага (другі том) мы таксама не маем.

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Ostatni termin" (USA), 26—27.IX. „Kupujemy wóz strażacki" (NRD), 28—29.IX. „Najlepsza kobieta mojego życia" (czeski), 30.IX—1.X.

**Нараўка**

„Na tropach szpiega" (radz.), „Po kruchym lodzie" (radz.), 27.IX—1.X.

**Нарва**

„Ludzie i bestie" (radz.), cz. I i II. 27.IX.—1.X.

**Дубічы Царкоўныя**

„Kto śpiewa nie grzeszy" (jugosł.), „Na torze czeka morderca" (czeski), 27.IX.—1.X.

**Арэшкава**

„Godziny nadziei" (polski), „Spojrzenie na wrzesień" (polski), 30.IX.—1.X.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Mój kochany Robinson" (NRD), „Kochana ciocia Sarika" (węgierski), 27.IX.—1.X.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Dzika Elżbieta" (czeski), 26—27.IX. „24 godziny z życia kobiety" (franc.), 28—29.IX. „Dawid Copperfield" (angl.), 30.IX—1.X.

**Янаў**

„Przygody psa Cywila" (polski), 27.IX—1.X.

## СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Ostatni termin" (USA), 26—27. „Kupujemy wóz strażacki" (NRD), 28—29.IX. „Najlepsza kobieta mojego życia" (czeski), 30.IX.—1.X.

**Мельнік**

„Profesor zbrodni" (węgierski), 26—27.IX. „Nie drażnić cioci Leontyny" (franc.), 28—29.IX. „Pamiętnik szalonej gospodyni" (USA), 30.IX—1.X.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Przygody psa Cywila" (polski), „Lew pręży się do skoku" (węgierski), 27.IX—1.X.

**Новы Двор**

„Straszliwe skutki awarii telewizora" (czeski), „Przepustka na ląd" (radz.), 27.IX.—1.X.

**Ніва**

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego.**

**Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.**

**BZGraf. Nakład 5.231 T-3**

